


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 11 (24) ЛІСТАПАД 2003 г.

**Кастусь Шыдлоўскі**

*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

# У ГОСЦІ ДА КАМЕННАЙ ДУБІЦЫ

Яшчэ ў жніўні, запісваючы аповяды ў вёсцы Стаўрова, давялося пачуць пра незвычайнай формы валун. Казалі, што знешнім выглядам ён вельмі падобны на човен, якімі здаўна плавалі па тутэйшых рэках і азёрах. Дубіцамі называюць у нашым рэгіёне выдзеўбаныя з тоўстага дрэва чаўны, а гэта - Каменная Дубіца. Тады, у жніўні, знайшоўся і праваднік, але адшкадаваць дзве-тры дадатковыя гадзіны не выпадала. Справу давялі да завяршэння няўрымслівыя паляўнічыя за адметнымі валунамі Браслаўшчыны з Кансталінскай школы на чале з Віктарам Бунтам. Камень дапамаглі адшукаць жыхары вёскі Дубраўка. Аказалася, што ад яе ўскраіны да Дубіцы не больш за кіламетр.



Новую вандроўку да незвычайнага валуна задумала і арганізавала Таццяна Цімошкіна, спецыяліст тураддзела Нацыянальнага парка. Пасля шматлікіх узгадненняў 27 лістапада на прыватнай машыне Вячаслава Скур'ята накіроўваемся ў бок Дубраўкі. Таццяна ўжо бачыла Каменную Дубіцу. Камень настолькі ўразіў яе, што карціць не толькі падзяліцца ўражаннямі, але і ўбачыць рэакцыю іншых. Аднак наша выправа мае не толькі экскурсійны характар, яна можа прэтэндаваць на статус невялікай экспедыцыі, бо паступіла інфармацыя, што ў наваколлі Дубраўкі ёсць яшчэ адзін цікавы камень, на якім нібыта выбіты контуры нейкай карты.

Апекаваўся нашай экспедыцыяй мясцовы ляснічы Уладзімір Прэдкель. Напачатку з яго дапамогай адшукалі ў лесе камень з «картай». Памеры валуна, амаль цалкам схаванага ў зямлі, трохі болей за метр. На паверхні - стракатая мудрагелістая гульня ліній. Дзівосы прыроды, не болей. Ляснічы звяртае ўвагу на яшчэ адзін камень, большы па памерах і з плоскай як у пліты паверхняй. Больш ён нічым не адметны. Абедзьве камлыгі знаходзяцца побач са старой дарогай Дубраўка - Стаўрова. У.Прэдкель згадвае, што сярод мясцовых жыхароў гэта месца называлася Блудным. Менавіта тут з падарожнымі адбываліся розныя здарэнні: то нешта прымроіцца ў гушчары, то ўвагу прыцягнуць незвычайныя гукі ды енкі. Асабліва шмат такіх здарэнняў выпадала на Шоснік - праз тыдзень пасля праваслаўнага Вялікадня.

Скіроўваемся да Дубіцы. Камень відаць здалёку і ён не можа не прыцягваць увагі. Прасека, якая нагадвае даўно закінутую дарогу, старыя замшэлыя яліны паабапал і на ўскраіне прасекі сапраўды, як дубіца, прыткнутая гаспадаром да рачнога берага, - каменная камлыга, фантастычна падобная на човен. Вось нос з пукатым рабром пасярэдзіне, вось карма, барты, карытападобнае паглыбленне, праўда, неглыбокае. Падобны драўляны човен яшчэ на ўласныя вочы пабачыў у Замошшы. Сапраўды - Каменная Дубіца. Наш гаспадар згадвае яшчэ некалькі назваў каменя -

# ВЕСТКІ

У памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея пачала працаваць традыцыйная выстава "Восеньскі салон". Гэта своеасаблівая творчая справаздача самадзейных мастакоў Браслаўшчыны, якія прадстаўляюць на выставу лепшае з таго, што было зроблена імі за год. На выставе – карціны мастакоў, сярод якіх вядомы на Браслаўшчыне акварэліст Цеафан Баркоўскі, мастачкі Аліна Трукан, Галіна Ставіцкая.

❒ ❒ ❒

Раённы аддзел саюза палякаў Беларусі арганізаваў выступленні на Браслаўшчыне ансамбля з Гродна "Лехіці". Гэта калектыў, які носіць званне "народны", дыпламант многіх фальклорных фестываляў. У рэпертуары – рэлігійныя, народныя песні, творы Агінскага і Манюшкі.

❒ ❒ ❒

Удзельнікам міжнароднага фестываля школьных драматычных калектываў "Белдучы", які праходзіў у літоўскім горадзе Ігналіна, стаў драматычны гурток Браслаўскай СШ № 1. Браслаўскія школьнікі падрыхтавалі пастаноўку "Адвечная песня" па творчасці вядомага песняра Янкі Купалы. Спектакль быў прадстаўлены на беларускай мове, якая прыемна здзівіла аўдыторыю сваёй прыгажосцю і мілагучнасцю.

❒ ❒ ❒

Вучаніца 9-га класа Браслаўскай СШ № 1 Тамара Алексій увайшла ў лік пераможцаў нацыянальнага конкурса "Халакост. Гісторыя і сучаснасць". У конкурсе яна ўдзельнічала з тэмай "Халакост на Браслаўшчыне". Тамара Алексій – адна з актыўных удзельніц краязнаўчага руху Браслаўшчыны.



...чыта...
Гэты ...ых дзі...
спазнен... ...с К...
і Новаго...х свя...аў.
Усе, хто мае дачы...нне да выхаду нашага выдання, шчыра віншуе чытацкае кола са Святамі і зычыць усяго самага добрага.
Вясёлых Святаў!
Маем надзею на новыя сустрэчы ў будучым годзе.

Камянуха, Доўбіца. Назвы сакавітыя, трапныя. У паглыбленні валуна бачым ваду, у якой так прыгожа адлюстроўваецца лес. Сцвярджаюць, што вада ў Каменная Дубіцы ёсць заўсёды, нават у спякотныя летнія дні, а яшчэ - яна чыстая, празрыстая, без паху - бяры і пі. Мясцовы люд лічыў ваду гаючай і браў яе на лячэнне. Напрыклад, верылі, што вада выводзіць барадаўкі, лечыць вочы. Да Дубіцы па ваду прыбягалі пастухі з суседняга выгана. Прыцягваў валун і шукальнікаў скарбаў. Удачы тут шукалі не толькі падлеткі, але і дарослыя мужчыны, спадзяваліся адшукаць тут золата. Сляды раскопак заўважныя і цяпер.



Усе гэтыя аповяды ўказваюць на тое, што ў даўнейшыя часы Каменная Дубіца з'яўлялася месцам нейкіх абрадаў і дзей, звязаных з дахрысціянскімі вераваннямі. Карціны гэтых дзей і абрадаў намалюе ўласная фантазія. Таццяна Цімошкіна не хавае, што каменны човен захоплівае яе сваёй энергетыкай, вядзе думку да сувязей з Касмічнымі Сіламі. І камень для сябе яна назвала па-іншаму: «Запавет імклівага жраца». ...Уяўляеце сабе човен, які імкліва нясецца па бязмежжу прасторы і часу, кіруемы усемагутным усюдыісным служыцелем Вечнасці?

Запісваем агульныя назіранні. Звяртае ўвагу тое, што асноўная вось Каменнай Дубіцы мае арыентацыю усход-захад (носам на ўсход). Валун мае 2 метры 70 сантыметраў у даўжыню, 1,5 метра ў шырыню, трохі болей за метр у вышыню. Паглыбленне, дзе збіраецца вада, - каля 10 сантыметраў. Адно з самых важных пытанняў - ці прыкладаў да валуна свае рукі чалавек? Адказу на яго мы не знайшлі. Магчыма, вельмі даўно людзі падчасалі валун, каб надаць яму большае падабенства да чоўна, але значнае выветрыванне, мох старанна замаскіравалі гэтыя сляды. Да Каменнай Дубіцы яшчэ прыедуць спецыялісты-геолагі. Можа ім удасца адказаць на пытанне. Але ў любым выпадку, валун чоўнападобнай формы - цікавейшы помнік прыроды.

Па дарозе ў Дубраўку агледзелі яшчэ адзін вялікі камень акруглай формы. Яго памеры 2,6 на 2,1 метра. Трохі не хапае, каб атрымаць статус помніка прыроды. Тым не менш, наперадзе нас чакаў сюрпрыз. Уладзімір Прэдкель абяцаў паказаць яшчэ адзін камень. Апошні аказаўся велізарнай купалападобнай камлыгай, амаль цалкам парослай мохам. Даўжыня волата амаль 3,5 метра, а шырыня - 2,65 м. На паверхні знаходзіцца толькі нязначная яго частка (вышыня 70 сантыметраў). Без сумнення валун будзе абвешчаны помнікам прыроды.



Развітваемся з гаспадаром і едзем у бок Браслава. Статус экспедыцыі пацверджаны - ёсць новая знаходка, сабраны звесткі пра Каменную Дубіцу. Мяркую, гасцей у адметнага валуна пабольшае.



Пячатка Жыгімонта Карыбутавіча. 1433 г.

Старадаўняй
Літоўскай
Пагоні
не разьбіць,
не спыніць,
не
стрымаць!!!

Максім
Багдановіч

*Юбілеі*

# Да 250 годдзя з дня нараджэння Т.Ваўжэцкага

*Як вядома, Тамаш Ваўжэцкі пабываў у маскоўскім палоне, дзе яму давялося даваць паказанні аб падрыхтоўцы паўстання і ўласным удзеле ў ім. Запісаныя сведчанні генерала зберагаюцца ў фондзе сакрэтнай экспедыцыі Сената Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (РДАСА, ф.6). нядаўна, фрагменты паказанняў Т.Ваўжэцкага былі ўпершыню апублікаваны гісторыкам Я.Анішчанкам (Стогн. Паўстанне і вайна 1794 года ў Літоўскай правінцыі. Дакументы. Мінск. 2002). Прапануем увазе чытача адзін з дакументаў.*

Почитая за долг написать всё то, что мне известно о революции польской и о личной моей к ней принадлежности по самой справедливости со всеми обстоятельствами, изъясняю нижеследующее.

Когда я был в Вильне в последних числах февраля, инженер-полковник, а после генерал господин Ясинский, прибывши из Варшавы, сказал мне и многим другим, что революция будет в великой Польше, которую и в Литве начать нужно, что делать будет ея в войске и оное зделает. Зная, что он человек горячій, приписывал я то его живости. Между тем протекал март месяц, а никакого возмущения не оказывалось и, может быть, что в Литве ничего бы не произошло, ибо ничего устроено не было, а Ясинский, кроме связи в войске с офицерами, мало был знаком в

Литве, и сам быв от Короны и с обывателями никакого родства не имевши, не имел их доверенности, тем более, что знали его горячий нрав. Но когда по подозрению взяты Солтан и Радишевский под стражу, то из примеру сего каждой мог роптать на нещастие, но революции не делал. Когда же разпространилось извастие о революции в Кракове, а после и в Варшаве, и некоторые полки российские из Литвы в Польшу выступили и во время прохода своего наскучили обывателям, а при том взяты ксёндз Богуш, Бржостовский и Грабовский, а инных для взятья искали, из коих два первые, может быть, равно соболезновали о нещастии Польши, но, наверно, революции не делали, которая после зделана самим войском. С третьим же из числа взятых я вовсе не виделся и ничего об нем не знаю.

Взятие, однако ж, тех персон, наверное произвело сильное сожаление и впечатление, растравляющее умыслы. Когда разпространился в Литве слух, что имеет быть установлена какая-то новая связь из особ, которые советниками тарговицкими были с полномочием суждения криминальнаго, то на сие разъярились сердца. Никто, однако ж, из обывателей в заговоры на возмущение не входил и все в домах спокойно сидели. Но когда гетман Коссаковский в то время уменьшать войски начал, несколько офицеров, о коих по заговору известно было, велел арестовать и судить яко преступников обещался, а артиллерии майора Шпененбериера, отлично в корпусе своем почитаемого, из Вильны за карулом выслал. Полковник же Ясинский, отменно уважаемый и почитаемой гетманом, им же был остережен и вызываем в дом гетманской для избежания арестy, то оный спасся бегством и, ходя по полкам, сговаривался с офицерами и без граждан революцию приуготовлял.

Между тем послан был от гетмана Коссаковского в Шавель для уменьшения первой бригады генерал Хлевинский, который там уже с Гедройцом революцию начал и начальником литовским бригадой и находящимися в ней офицерами был избран. Ясинский же спустя несколько дней с одним только войском, начав оную в Вильне, на другой день соединил народ и склонил обывателей в дело возмущения, установил Раду и суд уголовной и от Рады начальником литовским был наименован. Таким образом революция в Литве началась, актом особливым от краковскаго, особую Раду и особаго начальника для Литвы избрали.

Город Вильна чрез несколько дней заперт был до того, что никто из города и в город пропускаем не был. Все обыватели попечительные любопытствовали узнать, что в Вильне зделалось, посылали нарочных. Я и сам нескольких посылал, но все возвращались, не бывши в нем. Наконец, чрез 10 дней Ясинский прислал ко мне курьера с донесением, что я в Раду назначен и призывал меня в Вильну. Обыватели еще колебались мнением о начатом деле, но когда разпространилась весть о пожарах и насилиях, которые некоторой российской офицер Тучков, ретируясь из-под Вильны к Гродна, на сем пути чинил, то в то время все воеводства и уезды к возмущению виленскому присоединились и, как после проведано, что около Гродна все дома были разграблены, а город едва контрибуциею ста двадцати тысяч злотых польских от такого ж нещастия откупился. Тизенгаузен же, шеф гвардии, взят в неволю и никто в доме спокойным и безопасным не был, то в то время из провинции обыватели уходили в Вильну, и тогда настоящее началось возмущение.

Я, будучи вызываем, как выше упомянуто, прибыл в Вильну и застал уже распоряжение, зделанное Радой в разсуждении податей, рекрут и прочаго и учреждения депутации, которые сколько можно соглашаясь с вольностию и обезпечением обывателей, разнились во многих мнениях с генералом Ясинским, котрый в несколько дней, купно с депутациею тайною, советывал мне, дабы в сан повереннаго от Рады ехал я к границе курляндской, куда под мою команду обещал и корпус прислать достаточной к защищению Жмуди и уезда Упитскаго ....



Памятная шыльда з бюстам Т.Ваўжэцкага працы скульптара Казіміра Ельскага ў Віленскім кафедральным саборы

**Аляксандр Панцялейка**

# НАРОДНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ НА БРАСЛАЎШЧЫНЕ

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., калі Браслаўшчына апынулася ў складзе Расійскай імперыі, адукацыйныя працэсы пацярпелі змяненні. На змену нешматлікім вучэльням, якія знаходзіліся пад моцным рэлігійным уплывам, а ў многім і цалкам залежным ад яго, прыйшла абвешчаная народная адукацыя. У гэтым матэрыяле не стаіць мэта іх параўнання, толькі азнаямленне з сітуацыяй ў адукацыйных працэсах у краі з сярэдзіны XIX ст. да I сусветнай вайны.

Ініцыятарам стварэння сістэмы народнай адукацыі была Кацярына II. За аснову быў узяты прынцып пабудовы праграм аўстрыйскіх школ. Спачатку народныя вучылішчы падзяляліся на 2 групы: галоўныя 4-х класныя з 5-гадовым тэрмінам навучання і малыя 2-х класныя. Планавалася, што кожны павятовы горад ( у той час Відзы) павінен мець малае народнае вучылішча. Забягаючы наперад, адзначым, што ні ў Відзах, ні ў многіх іншых павятовых цэнтрах такія вучылішчы не адкрылі.

З сярэдзіны XIX ст. паўстала неабходнасць ствараць больш эфектыўныя пачатковыя вучылішчы, падпарадкаваныя Міністэрству народнай асветы. Іх у народзе называлі "міністэрскімі". Але вельмі востра стаяла праблема фінансавання і таму быў зменшаны тэрмін навучання. Так, у 1-класным вучылішчы, якіх было больш, трэба было займацца 3-4 гады, у 2-х класным 5 год. Згодна агульнаімперскай праграмы курс складаўся з Закона Божага, рускай мовы, пачаткаў арыфметыкі, царкоўных спеваў, асноваў рукадзелля і рамёстваў.

У канцы XIX ст. паўстала магчымасць адкрыцця народных вучылішчаў у кожнай воласці, але не ўсюды яна была рэалізавана. Трэба дадаць, што вялікую канкурэнцыю народным вучылішчам складалі царкоўна-прыхадскія школы, якія існавалі амаль пры кожнай царкве, манастырскія школы і сельскія вучылішчы. Так, да прыкладу ў Відзах, дзе ў канцы XIX ст. існавалі мужчынскае і жаночае народныя вучылішчы ў мясцовай ЦПШ былі вельмі высокія патрабаванні да якасці навучання. Прапануем кароткую гісторыю узнікнення і існавання сістэмы народнай адукацыі на Браслаўшчыне.

Найбольш ранніяя звесткі аб адкрыцці народных вучылішчаў на Браслаўшчыне адносяцца да 60-х гадоў XIX ст. У 1864-67 гадах былі адкрыты 1-класныя Браслаўскае, Відзскае, Опсаўскае, Дрысвятскае, Краснагорскае мужчынскія і Відзскае жаночае вучылішчы. У іх працавала па 2 настаўнікі. Браслаўскае наведвала 26 вучняў, прычым усе былі з сялянскіх сем'яў. Па веравызнанню асноўная маса – 22 – былі католікамі. Відзскае мужчынскае народнае вучылішча было самым вялікім па колькасці навучэнцаў. У яго сценах навучалася 52 вучні, пераважна выхадцы з сялян. Па веравызнанню 38 былі католікамі, 6 – праваслаўныя, 3 – стараверы, 3 – мусульмане, 2 – іўдзеі. У Опсе навучалася 47 вучняў, у Дрысвятах – 26. Цікава, што Дрысвяцкае вучылішча наведваў адзін выхадзец з дваран. Краснагорскае і Відзскае жаночае наведвалі адпаведна 10 хлопцаў і 20 дзяўчынак. У 1875 г. да існуючых пачатковых народных вучылішчаў дабавілася Слабодскае з 45 вучнямі. Трэба адзначыць, што да канца XIX ст. у Браслаўскім павеце не назіралася павелічэння колькасці гэтых навучальных устаноў. Паралельна з імі існавалі ЦПШ і сельскія вучылішчы. Да прыкладу Браслаў і Відзы мелі як народнае вучылішча, так і сельскае вучылішча і ЦПШ. На першы погляд здаецца, што ўсе жадаючыя маглі накіроўваць

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*Богъ любитъ*
*добродѣтельныхъ, Ему приятны*
*непорочные въ путяхъ своихъ.*

*Слова мудраго приобрѣтаютъ ему*
*похвалу, безумный обезславитъ себя*
*собственными словами.*

**Узор пісьма вучня Браслаўскага сельскага вучылішча Мікалая Зямца. 1865 г.**

**Адносіна настаўніцы Браслаўскага жаночага народнага вучылішча Людмілы Серабраковай у Ковенскую дырэкцыю народных вучылішчаў. 12 снежня 1873 г.**

*Находясь третий год на должности учительницы, я убедилась, что одно из самых неблагоприятных обстоятельств для вверенного мне училища – это то, что крестьяне неохотно отдают в училище девушек, хотя со стороны самих девушек высказывается большая охота к посещению училища. Я несколько раз обращалась по этому делу к местному Мировому Посреднику, который наконец, благодаря его просвещённому содействию и влиянию на крестьян, сделал то, что крестьяне Браславской Волости поставили волостным сходом приговор, по которому 30 состоятельных крестьян обязаны ежегодно отдавать своих девушек в женское училище, под опасением штрафа в 16 копеек серебром за каждый пропущенный день. Исполнение этого приговора поручилось Волостному Правлению, при этом указаны имена и фамилии девушек и их родителей. Точно так же сделали Волости Опсовская, Красногорская и Слободковская, позначив к обязательному обучению по 16 девушек с каждой волости. Получив копии означенных приговоров, я вправе была думать, что Волостные Старшины и Сельские Старшины тотчас же примутся за исполнение приговоров. Но надежды мои не сбылись. Старшины и Старосты не только не исполняют, но даже отчасти и противодействуют. Я обращалась к Господину Мировому Посреднику, но он имея в своём участке девять волостей, вероятно не имеет времени заняться тем, чтобы волостные правления в точности исполнили приговор волостного схода. Поэтому почтительнейше честь имею просить дирекцию, не найдёт ли она возможным найти какие-нибудь средства к побуждению Волостных Правлений Браславского, Опсовского, Красногорского и Слободковского, чтобы оные исполнили в точности то, что поручено к исполнению Волостным Сходом.*

*Учительница Людмила Серебрякова*

сваіх дзяцей навучацца асновам граматы. У канцы стагоддзя, у 1897 г. згадваецца Богінскае вучылішча. У ім у гэтым навучальным годзе навучалася 40 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі.

На пачатку XX ст. дакументы зафіксавалі павелічэнне колькасці навучальных устаноў. У многіх невялікіх вёсках адкрыліся школы граматы. Яны адносіліся і падпарадкоўваліся прыходскім школам. Народных вучылішчаў стала таксама больш. У 1904 г. іх налічвалася 11. Відзскае мужчынскае стала 2-х класным. Ёсць магчымасць пералічыць усе вучылішчы і іх старэйшых настаўнікаў: Відзскае – Міхаіл Посах, які падрыхтаваў на той час вельмі цікавую кніжку пра наваколле Відзаў; Дрысвяцкае – Пётр Цынцэвіч; Межанскае – Іван Багамолкін; Відзскае жаночае – Эмілія Голубева; Браслаўскае мужчынскае – Карп Мароз; Браслаўскае жаночае – Парфір'ева; Опсаўскае – Васіль Прымакоў; Краснагорска-Плюскае – Рыгор Каляга; Чэрнеўскае – Васіль Трафімук; Слабодскае жаночае – Раіса Лаўрова; Відзскае яўрэйскае – Ілля Слуцкі. На працягу бліжэйшых 5-7 гадоў утварылася яшчэ звыш дзесятка вучэльн. Неабходна адзначыць, што народныя вучылішчы адкрываліся ў зусім невялікіх вёсках. Аб многіх з іх сёння нічога не засталося. Адкрылі вучылішчы ў Зімніках, Лунях, Кірыліне, Нурвянцах, Каятах, Шаўрах, Варнэлях і г.д. На 1912 навучальны год толькі народных вучылішчаў налічвалася 31. Відавочна была бачна тэндэнцыя павелічэння іх колькасці ў перадваенны час. На жаль I сусветная вайна перапыніла гэты працэс.


Его Высокородию
Господину Окружному
Инспектору Виленского
Учебного Округа

**З ліста настаўніка Браслаўскага сельскага вучылішча Сяргея Платонава акруговаму інспектару. 23 сакавіка 1865 г.**

**З рэвізійнай справаздачы аб стане Варнэльскага народнага вучылішча Опсаўскай воласці. 27 лістапада 1912 года.**

*...Учитель Яков Агадюнович Радзивилов окончил курс Виленского духовного училища, имеет звание учителя начальной школы. В службе с 1 января 1909 г. и с 1 сентября 1911 г. в должности, холост, жалованья получает 360 руб. в год.*

*Законоучитель ксёндз Браславского римско-католического костёла, в должности с 1 мая 1912 г., жалованья получает 5 руб. в неделю.*

*...Средним числом училище посещают 22 человека. В день ревизии учащихся было: в первом отделении 2 чел., во втором – 2, в третьем – 5.*

*За последние три года окончило училище: в 1910 г. – 1 мальчик, в 1911 г. – 3 мальчика, в 1912 г. – 4 мальчика.*

*...Сегодня в школе (старообрядческой) занятий по случаю праздника «Знамения Пресвятой Богородицы» не было. Учителя в деревне не оказалось (ушёл на охоту). Пришлось дожидаться возвращения учителя, а до того времени я успел выспросить у собравшихся из деревни 7 мальчиков их познания. Занятия начались только 23 ноября, поздно была доставлена вновь заказанная (после пожара) классная мебель, хотя деньги на мебель были отпущены в начале сентября. С 1-м отделением ещё почти ничего не сделано. Во 2-м отделении по-русски читают не особенно бегло, в 3-м отделении несколько лучше... В школе всего немногим больше 20 учащихся, при желании со стороны учителя с таким количеством можно было бы заниматься и за обыкновенными столами, которые на время могли дать крестьяне. Рекомендовал бы учителю серьёзно взяться за дело и основательно ознакомиться с программой начальной школы. О том, что занятия начались несвоевременно, мне ничего не было известно. Ни классного журнала, ни приходно-расходной книги нет.*

*Инспектор народных училищ 7 участка*
*Ковенской губ. [подпіс]*

**Віктар Елісееў**

*Трагічныя старонкі мінулага*

# ДЗЕЗЕРЦІРЫ

*Цікавая рэч – размова ў вагоне цягніка. Сітуацыя, калі слухач і апавядальнік незнаёмыя і, хутчэй за ўсё, больш ніколі не сустрэнуцца, схіляе да такой шчырасці, якой ніколі не дазволіў бы сабе нават з блізкімі. Асабліва ацю пасажыраў друйскага вагона з'яўляецца тое, што часцей за ўсё народ тут мясцовы: ці то тутэйшы жыхар, ці то родам адсюль. І на гэты раз маім суседам па купэ быў пажылы мужчына, поўны, але жвавы, па выгляду калгасны інтэлегент. Завязалася зацікаўленая гутарка аб мінулым нашых родных мясцін, якое было далёка неабыякавым майму субяседніку. Слухаць было вельмі цікава, бо веды яго былі не кніжныя, а жывыя ўспаміны.*

*Прапаную чытачу адзін з аповедаў майго папутчыка, цікавы хаця б тым, што тэма гэтая практычна нідзе не раскрывалася.*

... Наша вёска знаходзілася ўбаку як ад партызанскіх зон, так і ад паліцэйскіх гарнізонаў. Так склалася, што вясковыя мужчыны і хлопцы не падаліся ні ў партызаны, ні на службу да немцаў, таму за ўсю акупацыю ніхто і не загінуў.

У 1944 годзе прыйшлі Саветы і амаль адразу пачалася мабілізацыя на фронт. На пачатку вайны нікога з нашых бальшавікі не прызывалі – ці то часу не хапіла, ці то не давяралі. А тут ужо спатрэбіліся. Але мерапрыемства гэтае ў нашых

(Заканчэнне на с.7)

*Актыўны дзеяч беларускай дзіяспары ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе, калекцыянер, краязнавец, сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства Мікола Паўловіч перадаў музейнаму аб'яднанню частку сямейнага архіва Васілеўскіх, які яму ўдалося выявіць у Даўгаўпілсе.*

*Сям'я Васілеўскіх заслужаная для Браслава. З сярэдзіны XIX ст. некалькі пакаленняў Васілеўскіх былі святарамі ў мясцовым праваслаўным храме, славіліся дабрачыннай дзейнасцю. У 1914 годзе святар Уладзімір Васілеўскі перадаў сваю маёмасць на патрэбы праваслаўнага, каталіцкага і яўрэйскага прыходаў мястэчка. Сын святара Аляксея – Аляксей Васілеўскі быў арганізатарам Браслаўскага антыфашысцкага падполля, загінуў у гітлераўскіх засценках у 1943 г. З прычыны таго, што падполле не было звязана з партыйнымі органамі, яно доўгі час не прызнавалася.*

*У Даўгаўпілсе ў пасляваенны час жыў брат Аляксея Дзмітрый, урач па прафесіі. Сваякі Дз.Васілеўскага праз М.Паўловіча перадалі ў музей дакументы аб навучанні кіраўніка Браслаўскага падполля ў Пражскім універсітэце, шматлікія фотаздымкі, дакументы, звязаныя з царкоўнай дзейнасцю Васілеўскіх.*



**Мікола Паўловіч перадае экспанаты ў фонды Браслаўскага музейнага аб"яднання**

**Мікола Паўловіч**

# ДАКУМЕНТЫ ПА ГІСТОРЫІ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Ужо каторы год, мяшкаючы ў Даўгаўпілсе, займаюся будаўніцтвам і рамонтам розных пабудоў, печак. З гэтай нагоды маю шматлікія цікавыя знаёмствы і магчымасці для пошука старадаўніх артэфактаў. З часам іх збіраецца досыць шмат. Узнікаюць праблемы з іх захаваннем і апрацоўкай. Дзякуй браслаўчанам, а таксама іншым музеям за згоду захоўваць гэтыя экспанаты ў сваіх фондах.

Адным з самых цікавых мест, дзе можна знайсці шмат старажытных рэчаў, папер, газет і іншага пад час рамонтных прац з'яўляюцца храмы. Прывяду прыклад. Яшчэ ў часы савецкай улады займеў знаёмства са святаром Іаанам, настаяцелем Петрапаўлаўскай царквы што на Фарштадце ў Даўгаўпілсе. Гэты святар перадаў у Замошскую царкву звон і царкоўныя рызы, дапамог набыць прыгожы посуд для службы. Св.Іаан служыць яшчэ і ў другіх храмах. Адзін з іх знаходзіцца непадалёку ад мяжы з Браслаўскім раёнам у в.Тартак. Ад айца Іаана я даведаўся аб досыць значнай колькасці старых папер на званіцы. Прыйшлося тэрмінова ехаць рамантаваць гэту царкву. Сёння ў царквы невялікі прыход і таму свайго святара няма. Пабудавана яна была ў 1894 г. на грошы купца с Пецярбурга. У гады І-й сусветнай вайны маёмасць царквы была вывезена на станцыю Дыбунь (каля Ніжняга Ноўтарада). Царкоўным архівам у свае часы цікавіліся немцы, латышы, савецкая ўлада. Можна дзівіцца, што яшчэ нешта засталося. З дазволу святара я пазнаёміўся з гэтым архівам. Асноўная частка складаецца з розных царкоўных часопісаў, кніг (спавядальных, шлюбных, прыходна-расходных і інш.), службовай перапіскі з амаль 100-гадовай перыядычнасцю. Самыя старажытныя (пач.XIX ст.) зацверджаны пячаткай Полацкай духоўнай кансісторыі. Ёсць сярод іх кніга уніятскіх часоў на польскай мове. Вельмі цікава пагартаць падшыўку папер, для прыкладу за 1875 г. і адчуваць сябе першым, хто праглядае іх з тае пары.

Чым цікавы гэты архіў для браслаўчан? Сярод мноства папер трапляюцца дакументы і з Браслаўшчыны. З дазволу святара адабраў усе паперы, якія датычацца Браслаўшчыны. Большасць ацалелых дакументаў чамусьці звязаны з Дрысвятамі. У тыя часы відаць мясцовыя хлопцы з Тартакаў бралі шлюб з дрысвяцкімі дзяўчатамі і выязджалі на Браслаўшчыну на сталае жыхарства. Дарэчы, зараз назіраецца адваротнае. Сярод экспанатаў – прыгожыя друкаваныя бланкі больш чым стогадовай даўнасці, запоўненыя каліграфічным почыркам, адбіткі мясцовых пячатак. Цікава, што на афіцыйный бланках пішацца па-руску "Дрисвяты", а на пячатках праходзіць беларускі варыянт "Дрысвяты". На адным лісце за 1877 г. выдатна захаваўся адбітак пячаткі Дрысвяцкага валаснога праўлення з адмысловым гербам. Сярод папер ёсць і некалькі арыгінальных пашпартоў царскага часу, прычым выдатна захаваных. Зараз з гэтымі і іншымі цікавымі экспанатамі можна пазнаёміцца ў Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі.

НОВОАЛЕКСАНДРОВСКИЙ
УЕЗДНЫЙ
ПРЕДВОДИТЕЛЬ ДВОРЯНСТВА

Ваше Высокопреподобие

Его Высокопреподобию
Священнику Салопайской церкви

30-го августа Архиепископ Литовский и Виленский Ювеналий разрешил поднесение наперстного креста Новоалександровскому Благочинному отцу Владимиру Василевскому по случаю 35-летнего его юбилея и благословил совершить 8 сентября в местечке Браслав торжественное богослужение соборне.

О вышеизложенном считаю долгом известить Ваше Высокопреподобие, как настоятелю одного из ближайших православных приходов.

С чувством глубокого уважения и преданности

Георгий Петкевич

1 сентября 1903 г.

* * *


М. В. Д.

(Заканчэнне. Пачатак на с.5)

вяскоўцаў сустрэла адносіны прама процілеглыя энтузіязму – прасцей кажучы, падаліся мужчыны ў дэзерціры. Чаму? Мусіць, не бачыў мёрскі селянін у Чырвонай Арміі вызваліцеля. Нeяк дзіўна казаць, але некаторыя дзяды не хаваюць, што пры немцах жылося нават у нечым крыху лягчэй, чым пры Саветах. Вось памятаю такі момант. Прывозіць селянін у Друю здаваць збожжавы падатак акупантам. Немец-прыёмшчык, паглядзеўшы на коніка-дахадзягу, прапануе: "Забірай сваё зерне, едзь дахаты і адкармі ім лепш свайго каня." (А ці ўяўляеце такую сітуацыю ў савецкім пункце "Заготзерне"? – аўтар). Гаспадары, што справіліся з падаткамі акупантам, мелі права набыць у спецыяльных крамах нямецкі (!) сельскагаспадарчы рыштунак па ільготным кошце. Яшчэ да гэтага часу яго можна сустрэць на панадворку добрага гаспадара.

А тут зноў Саветы са сваім атэізмам, рэквізіцыямі і падазрэннямі да спраўнага земляроба – ці не кулак? Вось і вырашылі вяскоўцы, што абыдзецца Чырвоная Армія і без іх пільнага ўдзелу. Маладзейшыя падаліся ў лес, гаспадары імкнуліся быць бліжэй да хаты. Бацька мой пры сценцы хлява змайстраваў буданчык і закідаў яго гноем. Ноччу спраўляў мужчынскую працу, а днём там адсыпаўся. Суседзі хаваліся пад падлогай, у яме для бульбы. Па вёсках перыядычна "лётала" мабілізацыйная каманда – афіцэр і некалькі салдат, ведалі, з якой хаты падаліся ў дэзерціры, – імкнуліся злавіць.

Суседа злавілі хітрасцю: сына-дашкалёнка пачаставалі цукеркай і паабяцалі пачаставаць татку, а той, дурненькі, і палез у склеп клікаць бацьку на смачненькае. Вывалаклі салдаты небараку за валасы на свет божы, "пачаставалі" па рэбрах пару разоў прыкладам і адправілі паліваць крывёй прускую гразь. Але Бог мілаваў: вярнуўся карміцель з вайны жывы і здаровы. А другога суседа чатырохгадовы сынок не здаў – з'еў аж тры афіцэравы цукеркі, а замест адказу схаваўся за спадніцу змярцвелай ад страху мамкі.

Не лягчэй было і тым, хто схаваўся ў лесе. Нейкі шчыры саветчык, а можа проста скнара, што пакваліўся на ўзнагароду, пачаў высочваць іх гурт. Час быў жорсткі і гэтая ідэя каштавала яму жыцця.

Ці варта было хавацца? Асабіста за сябе адкажу – так. Бо з тых нашых вяскоўцаў вярнуліся толькі некалькі калек, астатніх савецкія генералы паклалі пад кулямі нямецкіх кулямётаў пад Кёнігсбергам. Палажылі літаральна праз два тыдні, толькі некалькі дзён аддаўшы на ваенную падрыхтоўку, не навучыўшы нават толкам трымаць у руках зброю. Што гэта: звычайная расійская пагарда да тысяч жыццяў, а мо хацелі пачысціць Заходнюю Беларусь ад тых, хто вырас гаспадаром на сваёй зямлі, хто мог параўнаць уласніцкую долю з калгасным хамутом? Не патрэбны былі, мусіць, такія людзі савецкай уладзе, мо таму іх тысячамі і клалі ва Усходняй Прусіі.

Скончылася вайна. Нямала было, мусіць, такіх ухіленцаў у Савецкім Саюзе, бо хутка выйшла амністыя дэзерцірам. Страшнавата было аб'яўляцца, але ўслед за смялейшымі пацягнуліся да нармальнага жыцця астатнія. Але ўхіленне ад фронту не прайшло бясследна: пачалі спаганяць цяжкія падаткі, цягнуць у калгасы – не паўпарцішся з кляймом дэзерціра. Адным з самых цяжкіх было "дабраахвотна-прымусовая" пазыка на адраджэнне народнай гаспадаркі. Агенты па збыту гэтых аблігацый нахабна цягнулі з небарак амаль усе грошы – ведалі, што гэтыя не адмовяцца – пабаяцца. А калі хто трапляў у суд – такое мінулае дакідвала няшчаснаму колькі лішніх гадоў за кратамі.

Прыкрыя абставіны, але ж вырас я пасля вайны пры бацьку, жывым і цэлым...

*Слухаючы гэту размову, я задумваўся: а ці праўду кажа сусед?.. Пераканаы – праўду, бо такім не хваляцца. Не самы светлы бок той вайны, але ведаць аб гэтым трэба. Хацелася б, каб пабачылі гэтыя радкі тыя, хто пры ўладзе, – бо Радзіма павінна быць не мачыхай, а маці, – тады і жыццё за яе не шкада аддаць.*

*Знакамітыя земляк*і

# КАРОЛЬ ВЫРВІЧ



**Кароль Вырвіч** (2.11.1717, Браслаўскі павет – 6.6.1793), гісторык, географ, педагог. З шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віленскай акадэміі (1737–40, 1742–46). У 1734 уступіў у ордэн езуітаў, з 1745 ксёндз. Выкладаў у Пінскім, Крожскім і Навагрудскім езуіцкіх калегіумах. У 1751-57 хатні настаўнік у Гільзенаў у Дынабургу і Полацку, наведаў з імі Францыю, Галандыю і Германію. З 1757 выкладаў этыку і гісторыю ў Калегіум Нобіліум у Варшаве, у 1762-76 яго рэктар. У 1760-61 пракуратар Мазавецкай правінцыі ордэна езуітаў. Зрабіў значны ўклад у рэфармаванне школьнай сістэмы езуітаў. З уступленнем на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764) увайшоў у бліжэйшае акружэнне караля. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) у 1775-91 абат гебдоўскі. Супрацоўнічаў з гісторыкам Ф.Лойкам у абвяржэнні "гістарычных аргументаў" суседніх дзяржаў, якімі тыя абгрунтоўвалі свае прэтэнзіі на землі Рэчы Паспалітай. Выдатны географ, узняў геаграфічную навуку Рэчы Паспалітай на высокі ўзровень. Аўтар абагульняльных геаграфічных прац: "Сучасная геаграфія" (т.1, Варшава, 1768, забаронена да продажу паводле патрабавання расійскага паслаМ.В.Рапніна; 2-е выданне, Вільня, 1794) і "Усеагульная геаграфія" (Варшава, 1770). Напісаў падручнік па гісторыі "Кароткае сістэматычнае выкладанне ўсеагульнай гісторыі" (т.1-2, Варшава, 1766-71, на французскай мове). У выдадзенай па ініцыятыве караля кнізе "Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў" (т.1, Варшава, 1771) змясціў свой пераклад вытрымак з кнігі Ш.Мантэск'ё "Пра дух законаў". Пасмяротна выдадзена яго праца "Галэмбская канфедэрацыя" (1853). Як гісторык К.Вырвіч зазнаў уплыў французскай асветнай гістарыяграфіі, асабліва Мантэск'ё і Вальтэра. Адмоўна ставіўся да традыцыйнага разумення гісторыі як гісторыі палітычных падзей і войнаў, гісторыю народа тлумачыў як сукупнасць змен у палітычным жыцці, звычаях, рэлігіі, навуцы, мастацтве, эканоміцы, падкрэсліваў, што вывучэнне гісторыі дазваляе атрымаць веды, неабходныя для накіраванай змены ў дзяржаве існуючага ладу.

## *Выдавецкія навіны*

*Вера Баладэ — рыжанка, але жыве ў дачкі ў Краснадары. Яе сэрца належыць роднаму Браславу. Тут прайшлі, праляцелі лепшыя імгненні жыцця — маленства, юнацтва. Не часта можа яна прыязджаць у родны кут, іншая справа — думкі. Для іх няма межаў і абмежаванняў. З думак нараджаюцца вершы. Гэтыя вершы для сябе, для блізкіх, для сяброў і для тых, хто ацэніць не прыгажосць рыфмы, а стан душы. Вершы скаліся ў зборнік, які Вера Баладэ назвала "Памяць об Радзіме". Гэта не шматтыражнае выданне, а хутчэй спытак для блізкіх. Адзін з іх В.Баладэ даслала сваім землякам — жыхарам Браслава. Вершы пра любімы горад пачынаюць гэты зборнік. Слова Веры Баладэ.*




Касцёл у Мяжанах

БРАСЛАВ

О, Браславе нашем, нам есть, о чём вспоминать!
Мы, его дети, родимой Земли: -
Протоптаны стёжки, босыми ногами
Со смехом и криком, шальной детворы!

Ты дорог нам каждому, тобой мы гордимся,
Не лёгким был пройден, наш жизненный путь: -
Но, самые тёплые дни, — это детство
В твоих уголках, проходили они.

Просторы полей, с синевою озёров
Сосновых лесов, да песчаных дорог
Нельзя нам, не вспомнить и тех лоз у обочин
С их пышными кронами, толстых стволов.

То, синее небо, с солнцем палящим,
И, пением птиц – разнообразных пород: -
Цветов полевых, что так много мелькало
Среди травянистых, зелёных лугов!

Давно позабыты НАВЯТСКИЕ ГУМНЫ,
Когда-то прельщая своей красотой: -
Там, хатки стояли, покрыты соломой,
А, рядом колодцы, с их чистой водой!

Всегда, там веселье и радость царила,
Жил в основном, трудовой там народ: -
Полураздетый, почти полубосый,
Зато был он добрым и, с доброй душой.

Подолгу работать ему приходилось
Гнул, свою спину, с темна до темна: -
В ручную пахал он, в ручную и сеял,
Не было помощи, кроме коня!

Давно развалились и русские печи …
Много дарившие людям тепла: -
Потухли и лампы, те керосинные,
Тускло светившие у потолка.

Затих и шум, на железной дороге,
Не слышно бегущих, по рельсам колес: -
Когда-то, так город наш украшая,
Весь, в дыме клубящем, спешил паровоз.

Бежали к нему мы, на встречу – бывало,
Руками махая, крича на бегу: -
Гостя большого с вагона встречая
Тату Каругу, что любил детвору.

Стоит, вон в молчании, ВЕЛИКОЕ ПОЛЕ.
Не гонят там стадо коров пастухи: -
Давно уж погасли костры, что горели
При плясках, цыганей до поздней зари!

Малые, улочки, домики старые …
В наших сердцах, Вы, - в нашей душе: -
Знала б, ты только, гора наша ЗАМКОВА
Как годами таим, мы, тоску о тебе!

Славное озеро наше, ДРИВЯТО …
Мы все, преклоняемся перед тобой: -
Ты, нас встречаешь, и ты, провожаешь,
А, нам всем, так хочется, вернуться домой!!!

Рига. 1980 г.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)